Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя [illegible] Востра-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

Адміністрацыя: Завальная № 7, «Белар. Кнігарня». ):( ПАДПІСКА: на 1 месяц—10 руб., на 3 месяцы—25 руб.

Год I. Вільня, Субота, 19 ліпня 1919 г. № 49.

## ЛІТВА і ПОЛЬШЧА.

У апошнія часы паміж літоўцамі і палякамі ідзе востраяя спрэчка, пачаўшаяся яшчэ ад таго мамэнту, як польскія войскі занялі Горадзеншчыну і Віленшчыну з местам Вільняй.

Нядаўна польскія войскі перайшлі дэмаркацыйную лінію на літоўскім фронце і сталі пасоўвацца ў напрамку да Коўні. Літоўскія войскі ўступілі з польскімі ў бойкі і пралілася з аднэй і другой стараны кроў.

Няведама, чым бы скончылася ўсе гэта, каб Антанта не запрапанавала польскім войскам адайсьці на свае пазіцыі. Здаецца, што гэтым інцыдэнт счэрпан, але толькі з ваеннага боку.

Што-ж датычыць таго, у якім палажэньні пасьля ўсяго гэтага аказаліся польска-літоўскія адносіны, то трэба сцьвердзіць, кажучы агульна, іх абвостраньне. Палякі (вустамі «Нашага Краю») даказываюць, што літоўскае правіцяльства вядзе сгубную для літоўскага народу палітыку, «гандлюючы незалежнасьцю Літвы», бо яно ўступала і ўступае ў розныя хаўрусы з немцамі, з расейцамі і іншымі, і ня хоча ісьці да згоды з палякамі, каторыя стаяць «на грунце адозвы начальніка войск польскіх, каторы хоча даць можнасць ўсім жыхарам б. Вялікага Княства Літоўскага свабоднай ўстановы спраў народных».

Літоўцы адкідаюць ад сябе ўсялякія закіды з боку палякоў і, вядома, не прызнаюць ніякіх правоў палякоў ўмешвацца ў ўнутраныя справы Літвы, хоць-бы палякі і запраўды стаялі «на грунце» п. Язэпа Пільсудзскага.

Хто-ж тут вінават і хто праў? Нам здаецца, што якоя-б ня было цяперашняе Літоўскае Правіцельства, але-ж палякі не маюць ніякага права ўмешвацца ў літоўскія справы, бо Польшча ёсьць толькі Польшча, і нябольш, як этнаграфічная, так сама як і этнаграфічная Літва і этнаграфічная Беларусь. Польская-ж палітыка, навет тых кругоў, каторыя абслужываюца «Нашым Краям», ёсьць палітыка агрэсыўная, жадаючая ня вольнага хаўруса з Літвой і Беларусьсю, а прымушэньня Літвы і Беларусі да хаўруса з Польшчай. Гэтакую палітыку мы ня можам лічыць дэмакратычнай.

С—ко.

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## Весткі Польскага Генэральнага Штабу.

*15 ліпня.*

**Літоўска-Беларускі фронт.**

На ўсім фронці значных стычак ня было. Дужая дзеяльнасьць разведчыкаў.

**Палескі фронт.**

Атакі бальшавікоў на лініі Любань-Лахаўск адбіты.

**Галіцыйска - Валынскі фронт.**

Каля Горыня атакі бальшавікоў адбіты, пры гэтым мы змусілі няпрыяцеля адыйсьці на ўсходні бераг ракі. У Галіцыі нашы апэрацыі ідуць з пасьпехам.

15 ліпня нашы атрады з боям занялі Тарнопаль. Вялікая здабыча яшчэ ня падлічана.

**Ваенная канвэнцыя між Эстоніяй, Латвіяй і Літвой.**

НАУЭН. Між Эстоніяй, Латвіяй і Літвой зроблена ваенная ўмова. Украіна адмовілася прылучыцца да гэтай ўмовы.

(П. А. Т.)

**Бальшавікі просяць ген. Денікіна спыніць ваенную чыннасць.**

ВЕНА, 15 ліпня. Маскоўскі савецкі ўрад зьвярнуўся да ген. Денікіна з прапазыцыяй спыніць ваенную чыннасць. Прапазыцыя падпісана Чычэрыным і старшынёй Ц. И. К. Калініным, яны пішуць, каб даць знаць ім калі і гдзе можа ён прыняць прэдстаўнікаў Рады Камісараў.

(Кар. Св. Сл).

**Разьдзел сярод бальшавікоў.**

ПАРЫЖ, 15 ліпня. Сябры Рускай Палітычнай Народы ў Парыжы атрымалі пэўныя весткі аб разьдзеле сярод бальшавікоў.

Ленін ас абадзіўся з-пад уплыву Троцкага, які страціў папулярнасьць у чырованай арміі і ўцёк няма ведама куды. Будуць перамены ў Радзе Камісараў і запросіны прэдстаўнікай сацыялістычных партый ўступіць у правіцельство—пытаньне блізкай будучыны.

**Перад блізкім канцом.**

ПАРЫЖ, 15 ліпня. З рускіх кругоў пішуць з Парыжу, што на гэтых днях чакаецца актыўнае наступленьне арміі ген. Юдзеніча і так сама арміі ген. Колчака.

**У Фінляндыі.**

НАУЭН, 15 ліпня. Весткі аб умове між адм. Колчакам і ген. Манэргеймам афіцыяльна адклікаюцца. 21 ліпня адбудзецца пасяджэньне Фінляндцкага Сойму, на ім будзе выбраны новы прэзыдэнт рэспублікі. У Выбаргу і Гельсінгфорсе разкрыліся бальшавіцкія ўмовы зьніштажэньня фінляндцкіх складаў ваеннай амуніцыі і забіцьця ген. Манэргейма.

(П. А. Т.).

**Нямецкія войскі выйшлі з Турцыі.**

НАУЭН, 15 ліпня. 28-га чэрвеня г. г. нямецкія войскі, якія яшчэ знаходзіліся ў Турцыі і Салоніках, выехалі ў бацькаўшчыну.

(П. А. Т.).

**Канстытуцыя Гданска.**

БЭРЛІН, 15 ліпня. «Fossische Ztg» піша з Гданска, што тутака істнуе камісія для апрацаваньня канстытуцыі Гданска. У лік гэтай камісіі ўваходзюць: 20 нямецкіх сацыалістаў, 11 дэмакратаў, 8 нямецкай народавай партыі, 2 „незалежных“ сацыалістаў, 3 палякі. Плян канстытуцыі будзе даручан камісіі з 3-х асоб: паляка, немца і вярхоўнага камісара Гданска пастаўлянага Лігай Народаў. З іншых крыніц прыходзяць весткі, што 3 палякі, якім запрапанована увайсьці ў гэту камісію адмовіліся ад гэтата.

(Б. В. Д.).

# У ВІЛЬНІ.

**Новая адмена спэкуляціі.**

Нам перадаюць, што ў віленскім, лідзкім і іншых паветах наехаўшымі з Вільні спэкулянтамі шмат скуплена жыта на пню.

Дзякуючы гэтаму, панамі цэн на прадукты першай патрэбы, як хлеб і бульба, у недалёкай будучыне, могуць ізноў стацца «сындыкаты» мукамолаў і пекароў.

**Керэнкі.**

С 16 го ліпня на мейсцовой чорной біржы ізноў разменіваюць „керэнкі“ на «царскіе» грошы па вельмі нізкім курсу. за двацатку плацяць усяго толькі 6 руб.!!

**Спын № 50 ‹Głosu Litwy›.**

Па загаду пракурора акружнага суда паліцыя спыніла № 50 «Głosu Litwy».

**Прадукты.**

Гэтымі днямі чэкаюць прыбыцьця 10 вагонаў сушаніны і сала для жыхароў Вільні.

**Арэштаваные беларусы.**

Камісія Нацыянальнага Беларускага Камітэту па дагэтуль сабраных вестках аблічае, што ва ўсіх віленскіх турмах налічаецца каля 1.500 арэштаваных беларусоў.

**Ад каго ходзіць п. Янсон.**

П. Янсон, каторы падобна п. Родштэйну, быў старшынёй «Беларускай Вайсковай Арганізацыі», цяпер разам з іншымі чужэлнцамі выкінены з гэтае арганізацыі. Тымчасам п. Янсон ходзіць у Варшаве ад аднаго польскага ўраду да другога і дзівіцца, чаму гэта з ім ня хочуць гаварыць.

## Лісты у Рэдакцыю.

I.

У №47 часопісі «Беларуская Думка» быў памешчэн тэкст «Службовага абецаньня» складанага бытцым чыноўнікамі Цывільнага Упраўленьня Усходніх Зямель. Вестка гэна ня схожа с праўдай, дзеля таго, што чыны Цывільнага Упраўленьня Усходніх Зямель складаюць „Службовае абецаньне“ паводле далучэнай формулы.

Кіраўнік Друкарскага аддзелу **Л. Абрамовіч.**

**Тэкст службовага абецаньня для чыноўнікаў Цывільнага Упраўленьня Усходніх зямель.**

„Прыймаючы становішчэ чыноўніка ў Цывільным Упраўленьні Усходніх Зямель пры Глаўнай Камандзе Польскіх Войск, урочыста абецаюся, што буду служыць верна і шчыра Айчызне і народу, заўсёды дбаючы аб карысць краю і карысць публічную паводле найлепшага разуменьня, што буду акуратна пілнавацца пастаноў старшых, а такжэ дахаваю ўрадовых сэкрэтоў ва ўсякіх варунках, сумленна спаўняючы абавязкі свайго ўраду і загадоў старшых.

Гонарам сваім і ўласнаручным подпісам гэтае абецаньне пацьверджаю»...

**Ад рэдакціі.** Друкуючы гэтую папраўку, мы лічым сваім абавязкам зазначыць, што блянк с тэкстам службовага абецаньня, надрукаванаго намі ў № 47 „Б. Д.“ дастарчэн нам кандыдатам у пачтовые чыноўнікі, якому той тэкст быў дадзен да подпісу.

II.

**У справе народных хорау.**

(Ліст у рэдакцію).

Паднятая ў № 44 „Б. Д.“ п. П. В. Коранкевічам справа вясковых беларускіх хораў, справа ня толькі першай вагі і значэньня для беларускага адраджэньня, але справа першай і найпільнейшай патрэбы нашага адраджэньня.

Праз песьню, праз культурную працу можэ толькі і павінна адрадзіцца Беларусь. Дзеля гэтага вітаючы першы народны Острынскі беларускі хор у яго патрэбнай для замучэнай Беларусі працы перэсылаю ў Рэдакцыю пасільную ахвяру на хор 10 р.

Чым хата багата.

**Юры Верэшчака.**

III.

Вітаючы думку аб патрэбе арганізаваньня народных хораў, кладаю на гэту мэту ў Рэдакцыю «Бел. Думкі» 2 рублі.

**С. Пяткевіч.**

## Чыгуншчыкі жаляцца.

Глаўнаму Камісару Усходних Зямель у пададзенай на яго імя заяве, чыгуншчыкі жаляцца, што іх адсунулі ад іх профэсіональнай працы за тое, што яны ня знаюць польскай мовы. „Будучы выкінутымі за боры, пасьля чатырох гадоваго бадзяньнеся па фронтах і перанёсшы усе цяжэсці войны, мы, супроць адозвы Польскіх Ваенных Уласцей да жыхароў места Вільні (у якім гаварылося, што польскіе войскі прыйшлі дзеля абароны насяленьня ад панаваўшай анархіі, насільля і безладу, якіе цяжкім бярэмем клаліся на насяленьне і ставілі яго у бязвыхаднае палажэньне) мы спрадвечныя жыхары гэтаго краю ў перэважаючай большасці беларусы, с прычыны адсуненьня нас ад службы, апынуліся ў вельмі крытычным палажэньні дзеля немагчымасці вярнуцца на старыя мейсцы, аткуль былі вывезены па вызаву бышаго Начальства Віленскаго залезнадорожнага вузла“.

Чугуншчыкі просяць:

1. Каб пытаньне аб прыняцьці нас на службу было развязано ў поўнай згодзе з апавешчэнымі прынцыпамі поўнаго раўнапраўя ўсіх нацый.

2. Каб з намі быў зроблен поўны разрахунак, калі хто ня будзе прыняты на службу.

3. Каб была прадоўжэна выдача нам хлеба, выдача якога спынена нам ад 15 мая.

4. Каб зроблено было распараджэньне аб выдачы за грошы прадуктаў, якія атрымлiваюць тыя, што знаходзяцца на службе, безплатна.

5. Каб зроблено было распараджэньне аб выдачы пропускаў, хто хочэ вярнуцца ў Расею.

6. Каб выдана была падмога на праезд.

7. Каб выды былі ня прынятым на службу атэстаты с паказаньнем прычын увальненьня.

## ЗАГАД.

Дзеля ўсё часьцей здараючыхся ўклонаў процiў распараджэньня ад 14 мая г. г., Камісарыят м. Вільні прыпамінае ўсім жыхарам, што ўсёлякія апавяшчэньня, плакаты і г. д., за вынияткам апавяшчэняў урадавых і вайсковых органаў, могуць быць выклеяны на вуліцах, ці вывяшаны ў публічных мейсцох толькі пасьля ацэнзураваньня тэксту.

Апавяшчэньня і плакаты трэба даваць у цэнзуру да Паліт. Аддзелу Прэсы, Юр'яўскі пр. 13 (раней Юр'яускі 8). Працэнзураваныя апавяшчэньня і плакаты выклеіваць можна толькі пры пасярэдніцтве местоваго Бюро Апавяшчэньняў—Дамініканская 2, пакой 130.

Тыя, што ня споўняць вышэйнапісаных пунктаў, будуць пакараны арыштам да 2-х месяцаў і штрафам да 3000 марак.

(Распараджэньне ад 14 мая г. г.)

Таксама, апіраючыся на распараджэньне п. Камісара Усходніх зямель ад 25 мая г. г. напамінаецца, каб уселякія публічныя сабраньня, лекцыі, канфэрэнцыі і г. д. ў зачыняных памяшчыньнях, з платным ці безплатным ўаходам, могуць быць толькі за пісьмяным дазваленьнем, выданным Начальнікам павету ці места.

Вінаватыя ў няспаўненьні гэтага распараджэньня, незалежна ад магчымай адпаведнасьці перад судом, падлегаюць адміністраціўным парадкам пакараньню штрафам да 8000 марак ці арыштам да 2-х месяцаў.



Рэдактар і выдавец Э. Падгайскі. Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стэфанаўская, 23.